# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950г. Чацвер, 17 лістапада 1994 года № 123 (10823 ) Цана 50 руб.


## Нарада ў аблвыканкоме

Учора старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч правёў нараду кіраўнікоў абласных службаў і падраздзяленняў. Былі разгледжаны разнастайныя пытанні жыцця вобласці, выканання антыкрызіснай праграмы.

Адзначалася, што ў вытворчай сферы рэзка абвастрылася абстаноўка ў сувязі з абмежаваннем паставак у рэспубліку прыроднага газу, электрычнай энергіі. Генеральны дырэктар "Мінскэнерга" А.М.Воранаў з трывогай гаварыў, што недахоп энерганосьбітаў пагражае паралічом усёй прамысловасці. Сёння, як ніколі, патрэбна эканомнае выкарыстанне цепла- і электраэнергіі. Аднак далёка не ўсе разумеюць складанасць становішча, ляцяць на вецер і цяпло, і грошы.

Прэзідэнт асацыяцыі "Камунальнік" У.І.Кірыльчык заначыў, што на аб'ектах цеплавой гаспадаркі назапашана паліва на 30—35 дзён. Да канца гэтага года на ўтрыманне жыллёва-камунальнай сферы трэба яшчэ 22 мільярды рублёў.

Становішча ў будаўніцтве і прамысловасці прааналізавалі ў сваіх выступленнях намеснікі старшыні аблвыканкома В.В.Майко і К.І.Туровіч. Па-ранейшаму дапускаецца зацягванне тэрмінаў здачы ўводных аб'ектаў, распыленне сродкаў, неабгрунтавана распачынаюцца новыя будоўлі. Трывожыць той факт, што сёлета страты рабочага часу ў параўнанні з адпаведным леташнім перыядам падвоіліся. Не заўсёды праяўляюць разваротлівасць і прадпрымальнасць кіраўнікі некаторых прадпрыемстваў. Асабліва выразна гэта відаць на прыкладзе тых заводаў і фабрык, якія працуюць на мясцовай сыравіне, павінны выпускаць як мага больш тавараў народнага спажывання.

Факты злоўжывання службовым становішчам, разбазарвання, крадзяжу дзяржаўных сродкаў, ускладнення крымінагеннай абстаноўкі прывялі на нарадзе начальнік інспекцыі па Мінскай вобласці Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь А.Е.Забалотны, пракурор вобласці В.А.Сіраш, намеснік начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома Я.М.Ляухін. За 10 месяцаў у вобласці ўчынена 17 тысяч злачынстваў — столькі, колькі за ўвесь мінулы год. І кожнае чацвёртае з іх учыняюць вучні сярэдніх школ ці навучэнцы ПТВ. Міліцыя пераходзіць цяпер на ўчастковы метад работы. Такіх участкаў у вобласці створана ўжо 25, а ўсяго будзе 39.

На нарадзе выступілі таксама начальнік галоўнага ўпраўлення Нацыянальнага банка па Мінску і вобласці Г.П.Кухарэнка, начальнік абласной дзяржаўнай падатковай інспекцыі Т.І.Туронак, намеснік кіраўніка спраў аблвыканкома З.М.Скарупа.

Падводзячы вынікі нарады, старшыня аблвыканкома А.І.Цішкевіч сканцэнтраваў увагу прысутных на неабходнасці актывізацыі работы па выкананню антыкрызіснай праграмы, спыненню падзення жыццёвага ўзроўню народа, наладжванню здаровай абстаноўкі ў грамадстве.



З-за пастаяннага недахопу, дарагоўлі гаручага аўтамабілісты перажываюць зараз нялёгкі час. Не радуюць цэны і на запчасткі. У складаных умовах працуюць вадзіцелі Стаўбцоўскага аўтапарка №17. Толькі людзі забяспечваюць поспех у экстрэмальнай абстаноўцы. Сярод іх Леанід Бельскі — вадзіцель з 30-гадовым стажам. Больш мільёна кіламетраў «накручана» вопытным шафёрам.

Добрымі справамі славяцца ў калектыве Міхаіл Бурдукевіч і Іван Доўнар. Дарэчы, напярэдадні Дня работнікаў аўтамабільнага транспарту прафком уручыў ім ключы ад новых кватэр.

Фота Васіля ЗЯНЬКО.



■ Прэс-канферэнцыі

## СЛУЖБА КАНТРОЛЮ НЕ СПІЦЬ

У Нацыянальным прэс-цэнтры адбылася прэс-канферэнцыя кіраўніка службы кантролю Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Васіля Даўгалёва.

Васіль Даўгалёў коратка азнаёміў журналістаў з дзейнасцю ўзначальваемай ім структуры, асабліва падкрэсліўшы, што яе функцыі калі і перасякаюцца з работай такіх органаў, як КДБ, МУС, Камітэт па барацьбе з карупцыяй у органах дзяржаўнай улады і кіравання пры прэзідэнце і Кантрольная палата, то ўсё ж маюць сваю спецыфіку. Паколькі створана яна зусім нядаўна, то, паводле слоў кіраўніка, якія-небудзь вынікі падводзіць рана. Хоць буйных спраў, раскрытых за гэты кароткі перыяд, хапае.

У прыватнасці, не называючы падрабязнасцей, Васіль Даўгалёў сказаў, што нядаўна была праведзена праверка дзейнасці кіруючых структур запаведніка "Белавежская пушча", дзе выяўлены яўна процізаконныя дзеянні. Была зроблена і сур"ёзная праверка дзяржгандлю. Не засталіся без увагі службы і дабрачынныя фонды, дзесяткі якіх дзейнічаюць цяпер у рэспубліцы. Напрыклад, выяўлена, што Беларускі фонд сацыяльнай абароны інвалідаў на атрыманыя буйныя сродкі за два гады сваёй дзейнасці аказаў дапамогу ўсяго толькі сямі(!)інвалідам, тады як грошы фонду ўвесь гэты час круціліся на куплі-продажы, але ў выніку фонд аказаўся банкрутам.

Служба кантролю не займаецца прыцягненнем вінаватых да адказнасці, а толькі даводзіць вынікі праверак да ведама кампетэнтных асоб, падкрэсліў яе кіраўнік. Што ж датычыць магчымасці карупцыі ў апараце прэзідэнта і цяперашняга ўрада, то, адказваючы на гэтае пытанне, Васіль Даўгалёў падкрэсліў, што такіх фактаў выяўлена не было. Праўда, пры гэтым ён адзначыў, што карупцыя існуе ў любой дзяржаве і барацьба з ёй у многім залежыць ад работы такой службы.

У заключэнне прэс-канферэнцыі Васіль Даўгалёў адказаў на пытанні журналістаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ПЕРАСТАРАЛІСЯ

Хацелася зрабіць як мага лепш. Ёсць прэзідэнцкая праграма неадкладных мер, якая прадугледжвае навядзенне парадку і з цэнамі. Зараз яны не кампенсуюць усіх затрат на вытворчасць прадукцыі. І асабліва — харчовых тавараў, адносна нізкі кошт якіх падтрымліваўся вялізнымі датацыямі. 11 жніўня цэны адпускаюцца, і яны пачалі ўпэўнена набіраць вышыню — павышаліся 13—18 разоў.

Усё адбывалася ўпотай, ціха, без папярэдняй інфармацыі насельніцтва. Проста ставілі ўсіх перад фактам. Людзі прывыклі да гэтага і не рабілі якіх-небудзь рашучых крокаў для выказвання свайго пратэсту. Таму ва ўрадзе ніхто не думаў, што чарговае падаражанне малака, хлеба, масла, смятаны і іншых прадуктаў выкліча такую бурную рэакцыю. Нават прэзідэнт быў вымушаны перапыніць курс лячэння і вярнуцца з Сочы ў Мінск. Усе мы памятаем выступленне Лукашэнкі па тэлебачанні, рэзкасць яго ацэнак падзей, якія адбыліся за апошні час. І зусім натуральнай была цікавасць журналістаў: няўжо ўсё гэта рабілася без ведама прэзідэнта?

Адказ мы атрымалі на прэс-канферэнцыі, якую правялі прэм"ер-міністр М.Чыгір, яго намеснікі С.Лінг, В.Ганчар і У.Гаркун. Мэта іх сустрэчы з журналістамі — растлумачыць цэнавую палітыку Кабінета Міністраў. Аказваецца, суботняе тэлевыступленне Лукашэнкі людзі зразумелі не зусім правільна.

Прэзідэнт пастаянна быў "у курсе падзей у рэспубліцы". Па эканамічных пытаннях яго інфармаваў сам прэм"ер-міністр.

— Але пакуль яго не было, мы думалі, што трохі больш зробім, — зазначыў Міхаіл Чыгір.

І, як бачым, перастараліся. Цэны патрэбна было павышаць толькі пасля выплаты новай зарплаты. Вось чаму знізілі іх на малако, хлеб, смятану і іншыя прадукты, кошт якіх узрос больш чым на 18 працэнтаў. Прэзідэнтам падпісаны Указ № 200 ад 13 лістапада аб мерах па ўпарадкаванню цэн на асобныя харчовыя тавары і сацыяльнай абароне насельніцтва.

Аднак гэта не азначае, падкрэслілі кіраўнікі ўрада, вяртання да камандна-адміністрацыйных метадаў.

— У эканоміцы, як і ў прыродзе, — зазначыў Міхаіл Чыгір, — усё павінна быць збалансавана. Мы імкнёмся, каб усе затраты вытворчасці тавараў кампенсаваліся цаной спажывання. Адсюль і новая цэнавая палітыка ўрада. Мы адмовіліся ад датацый на сельскагаспадарчую прадукцыю, якая рэалізуецца ў розніцу, на электраэнергію, бензін, дызельнае паліва. Адпусцілі амаль усе рознічныя цэны. Тым самым нам удалося ў значнай ступені аздаравіць бюджэт і прывесці яго ў адпаведнасць з разважным сэнсам і патрабаваннямі Міжнароднага валютнага фонду. Чакаем, што дэфіцыт бюджэту складзе сёлета не больш чым 4,5 працэнта.

Што датычыць Указа аб зніжэнні цэн, то яго дзейнасць будзе кароткатэрміновай. Гэта тактычны ход, паколькі курс на рэформы захоўваецца. Неўзабаве ўрад вернецца да праблемы цэн на тыя тавары, якія сёння падзешавелі.

Прадугледжваецца сацыяльная адрасная падтрымка людзей. З 1 снежня кампенсацыя пенсіянерам узрасце з 8,5 да 20 тысяч рублёў. Тут улічваецца і рост даходаў у сувязі з павелічэннем мінімальнай зарплаты. На гэтыя мэты выдаткоўваецца 24 мільярды рублёў. Яшчэ 15 мільярдаў выдзяляецца выканкомам для дапамогі тым, хто знаходзіцца ў вялікай нястачы. Акрамя таго, кіраўнікі прадпрыемстваў атрымалі права выкарыстоўваць фонд матэрыяльнага заахвочвання для падтрымкі працуючых.

Усё гэта добра. Аднак у нас ужо склалася думка, падмацаваная не раз жыццёвай практыкай: чым больш даюць, тым больш і забіраюць. Кіраўнікі ўрада запэўнівалі, што падобнага не будзе. Бо названыя вышэй сумы бяруцца з бюджэту, а не за кошт дадатковай эмісіі грошай.

І апошняе: калі чакаць новага павышэння цэн? Журналістам адказалі, што гэтага ніхто не ведае. Асноўны фактар, які выклікае іх рост, — кошт нафтапрадуктаў. Як тут будзе складвацца сітуацыя, цяжка сказаць.

*Пётр СІДАРОВІЧ.*

## "SOS — МАМА". БУДЗЕ Ў БЕЛАРУСІ ТАКАЯ ПРАФЕСІЯ

**14 сямейных дамоў. Двухпавярховыя, камфартабельныя. Кожны ацяпляецца індывідуальным газавым комплексам. Сістэма энергазабеспячэння мае трайную страхоўку. Створаны ўвесь комплекс інжынерных збудаванняў, гаспадарчы блок. /У ім будзе мінімальны запас прадуктаў, агародніны: на ўсялякі выпадак/. Ёсць цэнтр зносін, медыцынскі пакой, зала, дзе можна наладзіць свята. Так сёння выглядае першая ў Беларусі "SOS — Дзіцячая вёска". Узведзена яна пад Мінскам, у Бараўлянах. Праўда, пакуль у ёй ніхто не жыве. Збудаванні павінна прыняць спецыяльная камісія. Мяркуецца, што навасельцы стануць абжываць дзіцячую вёску ў першым квартале 1995 года.**

Дык што ж гэта за вёска такая? Адказ на пытанне беларускія журналісты атрымалі на нядаўняй прэс-канферэнцыі. Удзел у ёй прынялі рэгіянальны дырэктар праектаў "SOS — Дзіцячая вёска" ў СНД пан П.Баўмгартнер, прадстаўнікі Беларускага камітэта "SOS — Дзіцячая вёска" — прэзідэнт Г.Юшкевіч, віцэ-прэзідэнт Ю.Шэрэвера, каардынатар М.Храловіч, член праўлення І.Грушавая.

Аказваецца, усё пачалося ў Аўстрыі, у 1949 годзе. Роданачальнік ідэі Герман Гмайнер быў узрушаны трагічным лёсам дзяцей, што засталіся пасля вайны без бацькоў. Ён заснаваў першую дзіцячую вёску. Ідэя знайшла падтрымку. Цяпер такія вёскі створаны больш чым у 110 краінах. Нягледзячы на нацыянальныя асаблівасці, традыцыі ўсе яны дзейнічаюць на агульных прынцыпах. Галоўнае — падарыць абяздоленым, асірацелым дзецям сям"ю, дом, цяпло. Звычайна ў дзіцячай вёсцы жыве 10-20 сем"яў. У кожнай — маці, сёстры і браты. Бацькі няма. Яго выхаваўчую функцыю выконваюць стараста вёскі, педагагічны персанал. Дзеці наведваюць звычайныя дзіцячыя сады, агульнаадукацыйныя школы. Яны жывуць у дзіцячай вёсцы да таго часу, пакуль не змогуць самастойна зарабляць свой хлеб. Варта адзначыць, што "SOS — Дзіцячая вёска" — гэта недзяржаўная, палітычна і рэлігійна незалежная сацыяльная арганізацыя, якая каардынуе работу ўсіх нацыянальных "SOS-аб"яднанняў".

Як жа будзе выглядаць беларускі варыянт праекта "SOS — Дзіцячая вёска"? Камплектаваць сем"і плануецца з ліку малышоў, што жывуць на Міншчыне. Іх узрост — ад груднога да 8 гадоў. У вёсцы будуць стараста, педагог, псіхолаг, інстытут цётак. Яны закліканы аказваць "SOS-мамам" патрэбную дапамогу, у выпадку неабходнасці — замяняць іх. Дарэчы, створаны тут і сацыяльны цэнтр маці і дзіцяці — своеасаблівая гасцініца для хворых дзяцей і іх мам з чарнобыльскай зоны. Хлопчыкі і дзяўчынкі будуць праходзіць курс лячэння ў комплексе бараўлянскіх бальніц.

"SOS-мама" — гэта і прафесія, і прызванне. Ёю можа стаць жанчына ва ўзросце ад 30 да 45 гадоў, якая вырашыла прысвяціць сябе выхаванню сацыяльна ўшчэмленых, асірацелых малышоў. Яна павінна быць і крышачку ўрачом, і крышачку педагогам. А галоўнае — мець добрую, вялікую душу. "SOS-мама" мае права на выхадны дзень, адпачынак. Ёй ідзе педагагічны стаж, налічваецца пенсія.

Жанчыны, што пражываюць у нашай вобласці і адчуваюць у сябе сілы заняцца высакароднай справай — выхаваннем дзяцей-сірот, могуць звярнуцца ў інфармацыйна-педагагічны цэнтр Беларускага камітэта "SOS — Дзіцячая вёска" па адрасу: г.Мінск, вул.Ульянаўская, 8, Дом настаўніка, кабінет № 310.

*Наталля ТУМАР.*



■ З нагоды

## ГОЛЫ ФАКТ, ЯК І ГОЛЫ КАРОЛЬ...

**Як вядома, у мінулую суботу на пашыраным пасяджэнні Кабінета Міністраў выступіў старшыня Камісіі па рабоце са скаргамі і заявамі грамадзян пры адміністрацыі прэзідэнта Віктар Кучынскі. Яго даволі рэзкая, адназначна абвінаваўча скіраваная прамова стала прадметам абмеркавання на нарадзе кіраўнікоў службаў Мінгарвыканкома, старшынь райвыканкомаў г.Мінска.**

— Многія заўвагі і вывады камісіі слушныя, і мы павінны ўважліва паставіцца да выпраўлення выяўленых недахопаў, — адзначыў старшыня гарвыканкома Аляксандр Герасіменка. — Але з шэрагам абвінавачванняў пагадзіцца нельга, і мы рыхтуем на іх свой адказ.

У чым жа абвінаваціў В.Кучынскі ўлады г.Мінска? Перш за ўсё — у разбазарванні жыллёвага фонду, у прыватнасці, двухсот кватэр.

А.Герасіменка даў тлумачэнне па гэтаму факту. Мы не разбазарылі, — сказаў ён, а прадалі 200 кватэр па камерцыйных цэнах. Атрыманыя сродкі накіравалі на будаўніцтва кватэр для сацыяльна малаабароненых і маламаёмных жыхароў горада.

Мінгарвыканком таксама прыняў рашэнне, якое дазволіла ўсім мінчукам браць удзел у долевым будаўніцтве жылля. Гэта таксама стала аб"ектам нападак з боку прэзідэнцкай камісіі. І хаця прынята лічыць, што факт — аргумент неаспрэчны, усё ж прыходзіцца пагадзіцца з другім меркаваннем: голы факт такі ж пераканаўчы, як і голы кароль. Бо адпаведны каментарый да факта іншы раз мяняе яго ўспрыманне з дакладнасцю да наадварот. Гэтак і ў выпадку з дазволам на долевае будаўніцтва. Рашэнне прымалася з мэтай захаваць будаўнічы комплекс горада, — паясніў А.Герасіменка. Дазволіўшы долевае будаўніцтва, горад атрымаў 56 мільярдаў рублёў. Сродкі гэтыя накіраваны на будаўніцтва аб"ектаў сацыяльнай сферы. Не было б у людзей магчымасці накіраваць сродкі ў будаўніцтва — гэтыя 56 мільярдаў ціснулі б на наш спажывецкі рынак. Дарэчы, пераважным правам на ўдзел у долевым будаўніцтве карысталіся тыя, хто стаіць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў.

Разбор канкрэтных заўваг, выказаных прэзідэнцкай камісіяй, нечакана закончыўся не надта пахвальным водгукам аб рабоце самой камісіі.

Камісія перавышае свае паўнамоцтвы, лічыць старшыня Савецкага райвыканкома Сяргей Калякін. Яна створана для работы са скаргамі і заявамі грамадзян, але на справе ўмешваецца ў работу прадпрыемстваў і ўстаноў, прычым нярэдка ўмешваецца некваліфікавана. Гэта перашкаджае нармальнай рабоце і наогул стварае выбухованебяспечную атмасферу ў горадзе.

Што ж, з"ява для нас прывычная. Хто пры ўладзе, той разбіраецца і ў тэхналогіі вырошчвання бульбы, і ў тонкасцях самай складанай хірургічнай аперацыі.

*Павел ВЕРАБ"ЁЎ.*

## ЦЭНЫ, ЯК ПАЛІТЫЧНЫ ФАКТАР

Крыху суціхлі эмоцыі вакол павышэння цэн і спробы прэзідэнта валявым шляхам вярнуць іх на ўзровень 1 лістапада. Сёння мы маем магчымасць больш спакойна і разважна глянуць на цэнавыя страсці. Ці сапраўды рывок цэн быў правакацыйнай акцыяй нейкіх антыпрэзідэнцкіх сіл? Ці, можа, павышэнне было прадыктавана эканамічнай неабходнасцю? Важна таксама высветліць: новыя цэны рэальна адлюстроўвалі затраты на выпуск і рэалізацыю прадукцыі ці былі штучна завышаны?

На думку многіх кампетэнтных людзей, цэны былі рэальныя. Сюды варта дадаць і інфармацыю прэм"ер-міністра М.Чыгіра аб тым, што рознічныя цэны на асноўныя віды прадуктаў харчавання ў нас значна ніжэйшыя, чым у Расіі. Цана ялавічыны складае 70 працэнтаў, малака — 38, хлеба — 50% да расійскага ўзроўню. Яшчэ большы разрыў у цэнах з Літвой. Зразумела, што пры захаванні да лістападаўскіх цэн беларускім прылаўкам пагражае поўнае спустошэнне і вываз прадуктаў за межы рэспублікі.

Натуральна ўзнікае пытанне: калі цэны былі рэальныя, то за чый кошт будуць пакрывацца страты? Відавочна, зноў цяжар падае на бюджэт. Гэта значыць — на нас з вамі, шаноўныя падаткаплацельшчыкі. Каб урад мог паклапаціцца пра нас і патрымаць трохі цэны на харчаванне нізкімі, мы павінны самі зарабіць на гэта сродкі.

Крыўдна, што цэны па-ранейшаму працягваюць выкарыстоўваць у якасці фактару палітычнага ўплыву на народ.

## ЮБІЛЕЙ МУЗЕЯ

Свой 50-гадовы юбілей адзначыў музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, які размешчаны на Цэнтральнай плошчы Мінска. У яго залах экспануюцца рэчы, якія не маюць аналагаў. Гэта партызанская зброя, баявыя сцягі, самаробныя друкаваныя выданні народных мсціўцаў, прадметы іх побыту, малюнкі і многае іншае. Усяго фонды музея налічваюць каля 130 тысяч адзінак рэдкіх экспанатаў.

Створаны ў 1944 годзе, музей з"яўляецца сур"ёзнай навукова-даследчай і культурна-асветнай установай.





Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63923** (індэкс выдання)

*"Мінская праўда"* Колькасць камплектаў

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

на газету **63923** (індэкс выдання)

*"МІНСКАЯ ПРАЎДА"*

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў | |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | | |

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

■ Ідэя, пошук, прадпрымальніцтва

# УЛАДАРЫ "ЭПОХІ",

## якія права "ўладарыць" у нашым нялёгкім жыцці адстойваюць зладжанай, рупнай працай

*Быў час, быў век, была эпоха... — не без іроніі ўсклікаў некалі адзін ананімны паэт у дачыненні да свайго, без сумнення, зорнага часу. У нас, думаецца, больш падстаў іранізаваць над нашай цяперашняй бязладнай "эпохай". Сёй-той і не праміне гэта выкарыстаць, спісваючы на няшчасную і абстрактныя пралікі з мінулага, і зусім канкрэтныя ўласныя грахі сённяшнія. А вось для чалавека разважнага любы час — незалежна ад абставін — "яго" час. І ўжо сапраўды без іроніі, у кожную "эпоху", нават такую бязладную як наша, ён не спяшаецца "паздзекавацца" з мінулага, з папярэднікаў. Ён проста працуе, робіць справу так, каб не было сорамна ні перад мінулым, ні перад будучыняй.*



Прадпрыемства "Пухавічынафтапрадукт" ніколі не было ў ліку занядбалых. І раней развівалася стабільна, задавальняла патрэбы спажыўцоў. Але калі два гады назад сітуацыя на рынку нафтапрадуктаў рэзка пагоршылася, новы кіраўнік Анатоль Уладзіміравіч Нікіфаравец не тое каб панік у роспачы, але моцна задумаўся: а ці варта было ўзвальваць на сябе такую нялёгкую і не вельмі ўдзячную ношу? Стабільных планавых паставак нафтапрадуктаў не стала. Цэны заліхаманіла...

Дзе шукаць выйсце? Сітуацыя падказвала, што разлічваць трэба на ўласныя сілы, на дзеяздольнасць калектыву, у першую чаргу на яго касцяк — ветэранаў вытворчасці. Не абышлося, вядома, без пэўных кадравых перастановак, узмацнення патрабавальнасці за выкананне кожным сваіх прамых абавязкаў.

З ліку стратэгічных задач на першы план былі вылучаны дзве найбольш вострыя і вызначальныя: пашырэнне рэзервуарнага парку захоўвання нафтапрадуктаў і развіццё сеткі іх рэалізацыі.

Можна лічыць, што за два гады намечаная праграма ажыццёўлена. Сёлета закончана будаўніцтва 4-х дадатковых ёмістасцей на тысячу кубаметраў кожная. Гэта дазволіць прымаць значныя аб"ёмы нафтапрадуктаў, мець іх дастатковы запас і тым самым "прытушыць" праблему забеспячэння гаруча-змазачнымі матэрыяламі і ў народнай гаспадарцы, і ў прыватным сектары.

Падобныя аб"екты для невялікага калектыву не з лёгкіх. Даліся яны няпроста. Давялося шмат папрацаваць яшчэ на стадыі выбару і зацвярджэння праекта, пры падборы падрадчыка.

Удумлівага, творчага падыходу запатрабавала і расшырэнне сеткі рэалізацыі. За тры кіламетры ад Мар"інай Горкі, побач з аўтамагістраллю Мінск—Бабруйск пачала дзейнічаць новая аўтазаправачная станцыя. Штосутачна праз яе прадаецца спажыўцам 4—5 тон бензіну і дызпаліва. У адным блоку з АЗС пабудаваны пункт тэхнічнага абслугоўвання, адкрыты невялікі магазін. Так што — калі ласка, аўтааматары, заязджайце на мар"інагорскую АЗС № 2, вам тут заўсёды рады! Дарэчы, цэны на бензін тут некалькі ніжэйшыя, чым у Мінску.

Адначасова аднавілі аўтазапраўку ў пасёлку Свіслач — устанавілі дзве дадатковыя калонкі пад бензін і адну пад дызпаліва. На пад"язных пляцоўках паклалі бетоннае пакрыццё. Цяпер прадпрыемства мае шэсць добраўпарадкаваных АЗС. Мяркуецца ў наступным годзе пабудаваць яшчэ адну ў Чэрвеньскім раёне.

— Не абышлося, вядома, без дзейснай падтрымкі з боку канцэрна "Белнафтапрадукт", — зазначае А.У.Нікіфаравец. — І наогул з прыходам новага кіраўніцтва канцэрна



пярвічныя працоўныя калектывы адчулі з яго боку большую дапамогу і зацікаўленасць у стабільнай рабоце. Прэзідэнт "Белнафтапрадукта" Антон Іванавіч Лойка, віцэ-прэзідэнт Аляксандр Міхайлавіч Мазанік, спецыялісты сталі больш увагі ўдзяляць таму, што робіцца на месцах, аналізаваць зробленае. Не выключаецца і фінансавая падтрымка.



Усё гэта, безумоўна, з удзячнасцю ацэньваецца калектывам. Ён перш за ўсё зацікаўлены ў стабільнай рабоце, а таму і сам паслядоўна шукае тыя рычагі, якія б забяспечвалі гэтую стабільнасць. Дырэктар і спецыялісты разумеюць, што захаваць яе можна пры ўмове няспынных паставак нафтапрадуктаў. У іх паўсядзённых клопатах праблема паставак стаіць на першым плане. Улічваючы, што перапрацоўчыя заводы іналіўныя станцыі Беларусі не заўсёды маюць у наяўнасці ГЗМ па прычыне запазычанасці перад Расіяй, прымаюцца захады для прамых паставак паліва з расійскіх прадпрыемстваў. Вось і напярэдадні нашага прыезду "Пухавічынафтапрадукт" атрымалі з Ніжняга Ноўгарада два эшалоны дызпаліва агульнай вагой звыш 6 тысяч 200 тон. Па цане, вядома, ніжэйшай за існуючую ў Беларусі.

Такіх прыкладаў можна прывесці нямала. Але сутнасць не ў гэтым, а ў тым, што мар"інагорскія палівазабеспячэнцы не чакаюць манны нябеснай, выходзяць на доўгатэрміновыя прамыя кантакты з расійскімі нафтаперапрацоўшчыкамі. Адсюль і стабільнасць у рабоце, адсюль і фінансы, адсюль і прыхільнасць кліентаў.



— Мне вельмі падабаецца стыль узаемаадносін пухавіцкіх нафтавікоў з прадпрыемствамі і гаспадаркамі аграпрамысловага комплексу, — зазначыў у размове намеснік старшыні Мінскаблагразабеспячэння Л.Г.Прысухін. — У іх заўсёды ёсць запас паліва, памяркоўна вырашаюцца пытанні платы за ГЗМ. У час пасяўной і ўборачнай кампаній прадпрыемства аказала неацэнную падтрымку калгасам і саўгасам Пухавіцкага і Чэрвеньскага раёнаў, якія яно абслугоўвае. Скажу больш: яго паслугамі карыстаюцца цяпер многія гаспадаркі Уздзенскага, Слуцкага, Старадарожскага і іншых раёнаў. Я асабіста адрасаваў многіх кіраўнікоў да мар"інагорскіх палівазабеспячэнцаў, і яны знаходзілі там і дызпаліва, і масла, якіх не было на іншых прадпрыемствах нафтазбыту. Несумненна, "Пухавічынафтапрадукт" — адна з лепшых фірм у сваёй сістэме.

Пахвала высокая, але апраўданая. Павышаная ўвага да кліента тут — "прэрагатыва" не толькі дырэктара А.У.Нікіфараўца, галоўнага інжынера У.І.Уткіна, інжынера-тэхнолага Л.А.Філановіча, якія "здабываюць" і ствараюць запасы паліва, але і тых, хто яго непасрэдна адпускае спажыўцам. Давялося назіраць, як больш двух дзесяткаў бензавозаў, што сабраліся за абедзенны час каля адміністрацыйнага будынка, літаральна праз паўгадзіны былі загружаны і адпраўлены "на волю". А ўсё таму, што вузлавое звяно ў сістэме рэалізацыі — фондавая група, якой кіруе В.Я.Папова, дзейнічае зладжана і бездакорна.

Зрэшты, на кожным участку прадпрыемства працуюць у асноўным вопытныя, прафесійна падрыхтаваныя людзі з пачуццём высокай адказнасці. Яны і цэментуюць калектыў. А каб добрыя адносіны, атмасферу ўзаемапавагі і даверу не "павыдзімала" скразнякамі эканамічнага бязладдзя, адміністрацыя і прафком імкнуцца па меры магчымасці захаваць сацыяльны камфорт у калектыве, частку клопатаў людзей вырашаць цэнтралізавана.

Прадпрыемства дапамагае нарыхтоўваць бульбу і агародніну, закупляе прамысловыя і харчовыя тавары, якія прадае жадаючым праз уласны магазін. Фінансавыя магчымасці дазваляюць нават выкупляць кватэры для сваіх работнікаў. Нядаўна такім парадкам атрымала жыллё намеснік галоўнага бухгалтара З.Ф.Андросік, неўзабаве мяркуецца выкупіць чарговую кватэру, а да канца года, магчыма, яшчэ адну.

Вядома, гэта з разуменнем успрымаецца калектывам. Аднак у свядомасці часткі грамадства ў апошні час фарміруюцца зусім іншыя погляды: быццам бы "Нафтапрадукт" — нейкая асаблівая, прывілеяваная сістэма. "Каб жа так, — не згаджаецца А.У.Нікіфаравец. — Можа, і ёсць якія-небудзь перавагі перад іншымі галінамі вытворчасці, але каб быць "на кані", даводзіцца круціцца".

У раёне, дарэчы, пра гэта добра ведаюць. Як і пра тое, што калектыў не стрыжэ купоны са сваіх набыткаў, дапамагае вырашаць многія гарадскія праблемы, аказвае дабрачынную дапамогу творчым калектывам культасветустаноў, школам, ветэранскім арганізацыям. Адкрываўся Палац культуры ў Мар"інай Горцы — прадпрыемства перадало яму тры арыгінальныя пыласосы, святкавалі Дзень настаўніка ў СШ № 1 — падарыла каляровы тэлевізар. І такія дабрачынныя ўчынкі робяцца не дакучліва, не пампезна, наадварот, дапаўняюцца ўзаемным супрацоўніцтвам. Вось і з першай школай заключаны дагавор на пашыў спецвопраткі. А цяпер рыхтуецца і сумесны навагодні вечар адпачынку.

Гэтыя нататкі — несумненна, толькі штрыхі да шматграннай дзейнасці калектыву, які не трапіў пад уплыў нашай "эпохі", усяляк супрацьпастаўляе ёй сваё імкненне жыць і працаваць дастойна.

*Мікалай КАРОЛЬ.*










**НА ЗДЫМКАХ:** на АЗС № 1 аператар **Т.П.Каратанава** і бухгалтар па АЗС **В.Ф.Іванова;** на пад"язным пуці — чарговы эшалон, а перапампоўваюць паліва **М.Ф.Казак** і **А.П.Кандрацюк;** завяршаецца мантаж лініі падачы, які вядуць **А.Р.Рабенка, А.Т.Кользун, В.П.Клопаў** і **І.І.Нічыпаровіч** (злева направа); аператар АЗС № 2 **У.М.Марцынкевіч;** ветэран працы аператар пятага разраду **С.М.Дубік;** праверку бензавозаў перад выездам ажыццяўляе **У.А.Клюкач;** на наліўной — заўсёды парадак; у рэзервуарным парку з"явіліся новыя ёмістасці.

*Фота Анатоля БАСАВА.*



■ Эканоміка: рэфармацыя і дэфармацыя

# "Аддайце зямлю!"

## — гатова заявіць кіраўніцтва раёна фермерам, якія не сталі яе сапраўднымі гаспадарамі

**Менавіта так і запісана ў рашэнні выканкома Любанскага райсавета: калі фермеры В.Самусевіч, В.Голуб, П.Шаблыка не навядуць належны парадак на сваіх землях, то будзе разгледжана пытанне аб канфіскацыі іх надзелаў і перадачы ў іншыя рукі. Што ж здарылася?**

ГАВАРЫЦЬ аб эканоміцы, эфектыўнасці працы без лічбаў нельга. Дык вось, на Любаншчыне створана 21 фермерская гаспадарка. За імі замацаваны 424 гектары зямлі. На аднаго працаўніка прыпадае ў сярэднім 10,6 гектара сельгасугоддзяў, 7,5 гектара — ворыва. Гэта, адпаведна, на 3,4 і 2,5 гектара больш, чым на аднаго працаздольнага жыхара раёна. У фермераў — 32 трактары, 15 грузавікоў, што складае больш як два працэнты ад калгасных.

На станаўленне фермерскіх гаспадарак за мінулы і сёлетні гады з бюджэту выдаткавана 215 мільёнаў рублёў. За гэты ж час імі атрымана надбавак на сельгаспрадукцыю і кампенсацый каля 80 мільёнаў. Што складае 1,1 працэнта ад агульнай колькасці грашовых сродкаў, выдадзеных на гэтыя мэты раёну.

А аддача? Згодна са справаздачамі фермераў, на іх долю ў раёне прыпадае толькі сотая частка збору збожжа, бульбы. Рэалізацыя мяса, малака ўвогуле складае каля дзесятай часткі працэнта. А яшчэ ж не так даўно сёй-той абяцаў, што як толькі ўдасца скінуць з сябе калгасныя путы, зямля яго адразу заквітнее, дасць шчодры ўраджай.

Чаму ж гэтага не здарылася? Выканкам даручыў спецыялістам дэталёва прааналізаваць сітуацыю. І высветлілася, што толькі восем фермераў раней працавалі ў сельскай гаспадарцы. Толькі каля паловы ўладальнікаў гэтых гаспадарак маюць веды, якія неабходны для больш-менш эфектыўнай работы на зямлі. Вопытныя калгаснікі не рызыкуюць адрывацца ад калектываў, ісці на "ўласны хлеб". А былому настаўніку ці звольненаму ў запас афіцэру вырасціць і сабраць добры ўраджай тым больш няпроста, бо гэта цэлая навука. Не дзіўна, што, як паказала праверка, пасевы фермераў В.Самусевіча і В.Голуба зараслі пустазеллем, а П.Шаблыка ў асноўным касіў шматгадовыя травы, якія дасталіся яму з зямлёй ад калгаса "Ленінскі шлях". Так, фермерам нялёгка станавіцца на ногі. Але ж тут ёсць і іншая прычына: у адпаведнасці з недасканалым Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сялянскай (фермерскай) гаспадарцы", атрымаць зямлю можа зусім выпадковы чалавек...

Мы ўжо неяк прывыклі да слоў "зямля — наша галоўнае багацце". А ж так яно і ёсць: з яе жывём мы ўсе — урачы і машынабудаўнікі, студэнты і пенсіянеры. Між тым, некаторыя фермеры выкарыстоўваюць свае надзелы толькі для ўласных патрэб, сеюць тое, што патрабуе найменш працы. Таму з усіх фермерскіх палеткаў Любаншчыны 52 працэнты былі сёлета пад збожжавымі культурамі, 28,5 — шматгадовымі травамі. На астатняй невялікай частцы палёў размяшчаліся бульба, караняплоды, грэчка, агародніна... Статак жывёлы ў фермерскіх гаспадарках налічвае толькі сем коней, 14 кароў і бычкоў, тры дзесяткі свіней. Такім чынам, кожныя два фермеры з трох трымаюць жывёлу выключна для патрэб уласных сем'яў. Выходзіць, што не толькі гараджане, а і суседзі наўрад ці могуць сёння разлічваць на мяса, малако з фермерскіх падворкаў. Як і зямля — на гной. Адкуль жа яму ўзяцца?

Па гэтай прычыне абсалютная большасць фермерскіх палеткаў штогод абыходзіцца без арганікі і аддае раслінам пажыўныя рэчывы, якія былі накоплены ў глебе тады, калі зямля належала калгасам. Але ж так з году ў год працягвацца не можа: зямля спустошыцца. Вядома, адмоўную ролю тут адыгрывае і тое, што амаль усе фермерскія гаспадаркі не маюць базы для захоўвання і перапрацоўкі прадукцыі раслінаводства, жывёлагадоўлі, абслугоўвання тэхнікі.

Але было б вельмі несправядліва ва ўсіх недахопах вінаваціць адных фермераў. Большасці з іх наўрад ці хопіць гадавога прыбытку, каб закупіць для наступнай сяўбы неабходную колькасць дарагіх мінеральных угнаенняў, ядахімікатаў. Між тым, урады развітых краін на гэтыя мэты выдаюць датацыі. Спецыяльныя службы там у любы момант гатовы даставіць фермеру паліва, гербіцыды, запчасткі, прапануюць найбольш эфектыўны севазварот для зямлі... Наш жа фермер круціцца сам, варыцца ў сваім саку. А той, хто абавязаны яму дапамагчы, нярэдка адварочваецца: маўляў, так табе і трэба.

Карацей, пакуль дзяржава не павернецца тварам да фермераў, важкай аддачы ад іх чакаць нельга. Аднаго трактара ды фермерскага энтузіязму для атрымання высокіх ураджаяў сёння недастаткова. А большага яны не маюць. І наўрад ці хутка атрымаюць.

...Тым не менш, папярэджанне ў адрас фермераў выканком, думаецца, зрабіў справядлівае. Сапраўды, узяўшыся за гуж, не кажы, што нядуж. Асабліва калі той гуж — зямля.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

■ На карце Міншчыны

# ТУТ ЖЫЛІ КАЛІСЬЦІ КАМУНАРЫ

У маляўнічым месцы, сярод векавых дубоў і залацістых хвой, на беразе ракі Волма, непадалёку ад горада Чэрвеня стаіць вёсачка Чырвоны Бераг.

Адкуль такая назва? Прыйшла яна, як сведчаць успаміны старажылаў і архіўныя даныя, з далёкіх дваццатых гадоў. Пасляравалюцыйнае аднаўленне сельскай гаспадаркі на Беларусі было звязана з развіццём розных відаў кааперацыі. Паўсюдна ствараліся вытворчыя калектыўныя аб"яднанні: калгасы, таварыствы па сумеснай апрацоўцы зямлі, арцелі і камуны. Камун у рэспубліцы было няшмат, з паўсотні. Адна з іх існавала ў Чэрвеньскім раёне на тэрыторыі сучаснай вёскі Чырвоны Бераг.

Вось што пісаў у сваіх успамінах сведка тых падзей Ільля Васільевіч Казючыц:

"У 1922 годзе на тэрыторыі Кліноцкага сельсавета ў былым фальварку памешчыка Каранеўскага так званыя "амерыканцы" /сяляне, што вярнуліся з эміграцыі/ арганізавалі камуну "Чырвоны Бераг". У яе разам з сем"ямі ўвайшлі: Андрэй Цярашковіч, Міхаіл Харытончык, Рыгор Гранчык, Антон Камар, Рыгор Тумар, Яўгенія Верабей з былых дваровых. Старшынёй абралі Рыгора Гранчыка.

Камуне выдзелілі 48 гектараў ворнай зямлі, столькі ж сенажацей, аддалі ў карыстанне тое, што засталося ад памешчыцкіх пабудоў і інвентару. Новыя гаспадары мелі сырабойню, валоўню, свіран, старую малатарню, сячкарню".

Пасяліліся камунары ў былым памешчыцкім доме і пральні. Рабочых коней, кароў, свіней і птушку купілі за свае грошы. Першыя паўтара года працавала сталоўка, а потым харчаванне дастаўлялі дамоў.

У 1926 годзе да камунараў далучыліся чатыры сям"і: Паўла Атрашэўскага, Івана Карнейчыка, Яўхіма Епімашкі, Аляксандра Вернікоўскага. Да 1929 года ў камуну ўлілося яшчэ 14 сялянскіх гаспадарак.

Дзяржаўная сялянская кааперацыя дапамагла чырвоным камунарам набыць малатарню, жняярку і касілкі. У гэты час ферма калектыўнай гаспадаркі налічвала 30 дойных кароў, 7 свінаматак, 70 авечак і многа птушкі. Камуна акуратна разлічвалася з дзяржавай па сельскагаспадарчаму падатку, а лішкі прадавала на рынку. Камунары жылі заможна, бо былі добрымі гаспадарамі, працавалі не шкадуючы сіл.

Праіснавала камуна "Чырвоны Бераг" да 1932 года. У той год быў прыняты статут сельскагаспадарчай арцелі — і яна ператварылася ў калгас з такой жа назвай. Потым ён стаў называцца калгасам імя Дзімітрава. Праз нейкі час землі гэтай гаспадаркі перайшлі да калгаса імя Леніна.

Цяпер на месцы былой камуны падсобная гаспадарка Чэрвеньскага райспажыўсаюза.

У вёсак, як і ў людзей, свая біяграфія, свой лёс.

*Анатоль ФУРЫК.*
*Чэрвеньскі раён.*

■ Набалела!

# ЗА БЫКА НЕ КУПІШ ІНДЫКА

Ашчадкаса глядзіць за сваім кліентам як маці за дачкою. Недасыпае, недаядае, працуе звышурочна. І ўсё дзеля таго, каб дагадзіць кліенту.

Нават рэкламу ў газетах, па радыё і тэлебачанні змяшчае, каб людзі не дай бог не забыліся і хуценька неслі грошы на ашчадкніжку. Тайну ўкладу гарантуе. Працэнты налічвае. Ад гэтага — сваім работнікам зарплата.

Кліенту куды дзецца? У замежную ашчадкасу грошы не панясеш. Людзі жэняцца, нараджаюцца, паміраюць, будуюць жыллё, купляюць сякія-такія рэчы, адпачываюць. Усюды грошы патрэбны, і немалыя. А каб зберагчы іх, накапіць, патрэбна ўсё тая ж ашчадкаса. У кішэні будзеш захоўваць — згубіш, у шафу пакладзеш — зладзеі могуць украсці. Словам, хочаш не хочаш — нясі ў ашчадкасу.

Так і я думаў раней. Два гады назад здаў бычка, які важыў 200 кілаграмаў, падсобнай гаспадарцы "Гарызонт" за восем тысяч рублёў.

— Грошы плацім толькі праз ашчадкасу. Давайце свой разліковы рахунак, — заявіла заатэхнік.

— Праз ашчадкасу — дык праз ашчадкасу. Толькі каб не забыліся ў канторы, — пагадзіўся я.

Прайшоў час. Пакуль грошы пераводзілі, цэны раслі як на дражджах і сталі касмічнымі. За быка можна было яшчэ купіць індыка, але з прынцыпу індыка купляць не захацеў. Людзі засмяюць.

— Прапала кароўка — няхай прападае і вяроўка, — ад злосці махнуў я рукою.

А цэны раслі. Прайшла дэнамінацыя і на ашчадкніжку запісалі восемсот рублёў. Каб гэта зрабіў вораг, дык плюнуў бы яму ў вочы. А дзяржаве не плюнеш.

"Вось дурань, — думаю я. — Калі б гэтага быка аддаў дарэмна знаёмаму — магарыч быў бы ад душы. Ды сёння быў бы я ў яго жаданым госцем. А дзяржава — з"ела быка і дзякуй не сказала. Маўчыць, бы вады ў рот набраўшы". Ездзяць па вёсках прадстаўнікі падсобных гаспадарак, комплексаў. Але дарэмна. Ім ніхто не верыць.

*Алесь ЯСЮЧЭНЯ.*

МІНСКАЯ ХРОНІКА

## НА КІРМАШ — З НОВАЙ ТЭХНІКАЙ

У беларускім рэспубліканскім выставачным цэнтры з 23 па 25 лістапада 1994 года адбудзецца VIII міжнародны універсальны кірмаш «Усход—Захад—Поўнач—Поўдзень». Рыхтуецца да ўдзелу ў ім і Мінскі трактарны завод. На гэты раз прадпрыемства выступіць тут не толькі як удзельнік, а і як спонсар.

## УСЁ ДЛЯ ДОМА

Да 19 лістапада ў мінскім Палацы спорту будзе працаваць выстаўка-продаж "Беларускі дом-94". Прадпрыемствы нашай рэспублікі, замежныя фірмы прапануюць мэблю і абсталяванне для кухні, будаўнічыя і аддзелачныя матэрыялы, сантэхнічнае абсталяванне, праекты катэджаў і многае іншае.

## І Ў ГОРАДЗЕ, І НА ПРЫГАРАДЗЕ

З заўтрашняга дня па рашэнню Мінгарвыканкома павышаецца кошт праезду ў гарадскім пасажырскім транспарце. За талон на адну паездку трэба будзе плаціць не сто, а дзвесце рублёў. Павышаецца тарыф і на прыгарадных аўтобусных маршрутах. Праезд аднаго кіламетра абыдзецца пасажыру ў 20 рублёў.

## "ПРАСПАЛІ" ДАРОЖНІКІ

Бездапаможнай аказалася напярэдадні зімы дарожная служба гарадской гаспадаркі сталіцы рэспублікі. Нягледзячы на папярэджанні метэаролагаў аб тым, што хутка будзе галалёд, яна не змагла забяспечыць раніцай 15 лістапада рух пасажырскага транспарту. Дзесяткі тысяч чалавек, нервуючыся, вымушаны былі гадзінамі дабірацца ў цэхі родных прадпрыемстваў, установы.

Як падкрэслівае Белінфарм, цяжка, ды і немагчыма, бадай, з усёй дакладнасцю вызначыць велічыню страт з-за прастояў станкоў і механізмаў, нясвоечасовага прыняцця рашэнняў, як нельга пакуль падлічыць колькасць траўм і ўстанавіць ступень іх цяжкасці.

## ЗАПРАШЭННІ НА ФЕСТЫВАЛІ

Сёння ў Палацы культуры прафсаюзаў нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ і Беларуская федэрацыя "Кінаклуб" пачынаюць фестываль пад назвай "Залаты фонд нямецкага кіно". Будуць паказаны фільмы "Кабінет доктара Калігары", "Раманс у міноры", "Пад мастамі" і "Апошні чалавек".

Кінафестываль "Анджэй Вайда. Яго кіно і акцёры" пачынаецца таксама сёння ў кінатэатры "Перамога" і з"яўляецца часткай Дзён польскай культуры ў Мінску.

## ІДЗЕ НАЛАДКА І ВЫПРАБАВАННЕ

На Мінскім маргарынавым заводзе шукаюць шляхі для павелічэння выпуску прадукцыі, якая неабходна не толькі насельніцтву, але і хлебабулачным, кандытарскім прадпрыемствам. Цяпер на заводзе ідзе наладка і выпрабаванне абсталявання, закупленага ў Германіі. Новая тэхналагічная лінія дазволіць павялічыць выпуск маргарыну на 20 тысяч тон у год.

## ПА НІЗКІХ ЦЭНАХ

Па вуліцы Солтыса, 189 адкрыўся трэці ў Мінску магазін па продажу тавараў народнага спажывання па нізкіх цэнах. Ён будзе абслугоўваць пенсіянераў, інвалідаў, ветэранаў Партызанскага раёна, якія апынуліся за рысай беднасці.

Адкрыў магазін цэнтр "Добразычлівасць".

## УСІМ БЫЛО ВЕСЕЛА

Учора ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце быў наладжаны канцэрт-капуснік "Студэнцкі дывертысмент", які прымеркаваны да Міжнароднага дня студэнтаў. Выступалі артысты з шоу-тэатра "Мы" і тэатра "Пітон", танцоры, спевакі, гумарысты. На вечарыну былі запрошаны і госці з іншых ВНУ Мінска.

## САБРАЛІСЯ НАВУКОЎЦЫ

У Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь учора пачалася навуковая сесія, на якой будзе заслухана каля ста дакладаў, аб"яднаных тэмай "Беларусь на шляхах адраджэння". Навукоўцы даследуюць гістарычны шлях беларускага народа ад старажытнасці да нашых дзён.

*Падрыхтаваў Павел ЖУРБА.*



*Ларыса **Блоцкая** — загадчыца прадуктовага магазіна "Белыя Росы" №6 пасёлка Бальшавік Мінскага раёна. Яна імкнецца завозіць у гандлёвую кропку той тавар, які неабходны для вяскоўцаў, культурна і ветліва абслугоўвае наведвальнікаў.*

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

# ФАКСІМІЛЬНАЯ "РУНЬ"

Максім Гарэцкі прыйшоў у беларускую літаратуру пазней, чым Я.Купала, Я.Колас, М.Багдановіч. Першы яго допіс з"явіўся ў "Нашай ніве" ў верасні 1912 г., першае апавяданне "У лазні" — там жа, у студзені 1913 г. У наступным годзе ён дэбютаваў як аўтар асобнай кнігі прозы "Рунь". Якім было гэтае выданне, куды імкнуліся думкі маладога пісьменніка? Цяпер кожны, хто возьме ў рукі "Рунь", зможа адчуць подых таго часу, яго складаныя грамадска-сацыяльныя праблемы, каларытныя і дакладныя побытавыя малюнкі. Справа ў тым, што гэта факсіміле таго выдання, якое ўбачыла свет у Вільні ў друкарні самога "пана Марціна Кухты", якога прыязным словам згадваў у сваім перадсмяротным вершы Максім Багдановіч.

З артыкула "Пошукі вышэйшага сэнсу" крытыка Дзмітрыя Бугаёва, якім заканчваецца выданне, чытач даведаецца, што на гэтую кнігу ў газеце "Наша ніва" была надрукавана рэцэнзія, дзе адзначаліся глыбіня і багацце думак, моўнае хараство, літаратурная дасканаласць. Дарэчы, звярнуў увагу на "Рунь" маладога пісьменніка і Максім Багдановіч, назваўшы зборнік вялікім укладам у беларускую літаратуру. Не страціў ён вялікага значэння і цяпер. Чытач мае магчымасць дакрануцца сэрцам да прозы, якой уласцівыя творчая індывідуальнасць, адметнасць почырку, жанрава-стылявых форм.

Факсімільнае выданне "Рунь" — добры падарунак аматарам беларускай літаратуры.

Навіны з Літвы

## ІНФАРМАЦЫЯ ДАРАГОГА КАШТУЕ

Урад Літвы прыняў рашэнне аб узнагароджанні прэміяй у памеры 250 тысяч літаў (каля 60 тысяч долараў) тых асоб,якія прадаставяць інфармацыю праваахоўным органам, дапамогуць раскрыць арганізатараў і выканаўцаў дыверсіі на чыгуначнай трасе Вільнюс—Каўнас. Ананімнасць урадам гарантуецца.

## АБ БЕДНЫМ БЮДЖЭЦЕ ЗАКІНУЛІ СЛОЎЦА

Вострыя дэбаты разгарнуліся ў эканамічным камітэце Сейма Літвы па пытанню аб бюджэце рэспублікі, праект якога прадставіў урад. Хоць афіцыйных паведамленняў камітэта пакуль няма, аднак адзін з яго членаў, папулярны ў народзе дэпутат Сейма Казімерас Антанавічус паведаміў журналістам, што камітэт адхіліў праект як неадпавядаючы інтарэсам насельніцтва Літвы.

## УРАДУ ТРЭБА ВЕДАЦЬ: ШТО ВІНЕН, АДДАЦЬ ПАВІНЕН

Наспявае канфлікт ВНУ Літвы з урадам рэспублікі па прычыне недастатковага фінансавання навучальных устаноў і нізкай зарплаты прафесарска-выкладчыцкага саставу. Рэктары ўсіх ВНУ, прадстаўнікі выкладчыкаў і студэнтаў на праведзенай нядаўна сумеснай нарадзе прынялі рашэнне пачаць акцыі пратэсту, у час якіх іх патрабаванні будуць уручаны Сейму і ўраду рэспублікі. Сутнасць патрабаванняў — павелічэнне размераў зарплат і стыпендый, упарадкаванне фінансавання вышэйшых навучальных устаноў, неадкладнае пагашэнне ім бюджэтнага доўгу. А запазычылася дзяржава ВНУ многа. У прыватнасці, Вільнюскаму універсітэту — 4,7 мільёна літаў, 2,5 мільёна літаў — Каўнаскаму медыцынскаму універсітэту. На думку выкладчыкаў, такія даўгі і неплацежаздольнасць ВНУ ставяць пад пагрозу магчымасць правядзення навучальнага працэсу ўвогуле.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Не магу маўчаць

# Я ПЕРАД ВАМІ З ПАМЯЦЦЮ СВАЁЙ

*Роздум ветэрана Вялікай Айчыннай вайны аб выхаванні патрыятызму ў маладога пакалення*

У кнізе "Навечна ў сэрцы народным" некалькі радкоў сказана пра Рыгора Рыгоравіча Кіяшку. Добра ведаю гэтага мужнага чалавека. Калі сустракаемся, згадваем сваю баявую маладосць, тых, хто першым стаў на абарону Бацькаўшчыны, хто змагаўся на франтах і ў партызанскіх атрадах да апошняга дыхання. Для нашага пакалення Вялікая Айчынная вайна ніколі не адыдзе ў мінулае. Як лінза збірае сонечныя промні ў адну кропку, так з учынкаў мужных людзей складваецца найвялікшы подзвіг нашага народа, які будзе вечна высвечваць карані гераізму.

Р.Р.Кіяшка нарадзіўся ў г.п. Вялікая Багачка, што на Палтаўшчыне. З сялян. У арміі з 1938 года, на фронце з самага пачатку вайны. Камандуючы танкавай ротай, Кіяшка вызначыўся ў Беларускай аперацыі. Яго танкі ўварваліся ў раённы цэнтр Сянно, знішчылі дзве гарматы, тры машыны з боепрыпасамі, каля ста фашыстаў, ля вёскі Чарэя ліквідавалі варожы абоз, падбілі самаходную гармату. Праз некалькі дзён яго рота зноў пайшла ў смяротны бой. На гэты раз каля Маладзечна мужныя воіны Кіяшкі знішчылі тры танкі, шэсць гармат, 40 павозак і больш за 200 салдат і афіцэраў праціўніка, узарвалі склад з боепрыпасамі, падпалілі склад з гаручым. Гітлераўцы падбілі машыну камандзіра роты і акружылі яго. Тройчы паранены, ён гранатамі праклаў сабе шлях і выйшаў з акружэння. Следапыты Маладзечаншчыны адшукалі гэтага мужнага чалавека. Пасля вайны Герой Савецкага Саюза працягваў службу ў арміі, закончыў Ваенную акадэмію бранятанкавых войск. Жыве ў Варонежы. Знаходзіць час, каб прыехаць у мясціны, якія вызваляў, пабываць на магіле жанчыны, якая падабрала яго, параненага.

Вось і нядаўна я расказваў пра Р.Р.Кіяшку на ўроку гісторыі ў Маркаўскай сярэдняй школе, якую ўзначальваў да выхаду на пенсію. На такія ўрокі я іду з вялікім задавальненнем, бо адчуваю, што сённяшнія школьнікі цікавяцца подзвігамі старэйшага пакалення. Гэта я ўсведамляю і тады, калі праводжу экскурсіі ў школьным музеі баявой і працоўнай славы, дзе сабрана шмат цікавых матэрыялаў. Дарэчы, вёска Маркава — адна са старэйшых на Маладзечаншчыне. Упершыню яна ўпамінаецца ў 1495 годзе. Жыхары гэтага старажытнага паселішча перажылі шмат падзей. Пра адну з іх раскажу. У абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне захоўваецца цікавы дакумент 1803 года, які перадалі туды маркаўскія школьнікі. Гэта прашэнне сялян на імя Аляксандра 1 з просьбай абараніць ад нападкаў ротмістра С.Клецкага. Маркаўцы выклалі цару ўсе свае крыўды-беды. Гэты служака стварыў для іх невыноснае жыццё, забараніў хадзіць у лес, якім яны раней карысталіся, каго зловяць — каталі. Аднойчы прывязалі да дрэва ротмістравы паслугачы Грышку Каваля і Рагуновіча і моцна пабілі бізунамі. Пан нават страляў па людзях. Адным словам, мінулае — гэта аснова нашага сёння і нашай будучыні. І гэтая такая неабходная і такая натуральная повязь часоў ніколі не павінна ні слабець, ні тым больш губляцца.

Толькі вельмі крыўдна, што знаходзяцца людзі, якія з нейкай незразумелай ашалеласцю імкнуцца запляміць падзеі Вялікай Айчыннай вайны, вышукваюць новыя даты і заклікаюць шырока іх святкаваць. Перада мною Зварот да беларускага народа і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, падпісаны аргкамітэтам па святкаванню 480-х угодкаў "Перамогі Беларускага войска пад Оршаю". У гісторыі беларускага народа, адзначаецца ў тым звароце, Аршанская бітва мае выключна важнае значэнне. На доўгі час яна спыніла маскоўскую агрэсію. Божа мілы, якая ж кароткая памяць у аўтараў гэтага звароту! Няўжо яны ніколі нічога не чыталі пра Вялікую Айчынную вайну? У той жа кнізе "Навечна ў сэрцы народным" змешчана каля дзвюх тысяч артыкулаў аб Героях Савецкага Саюза — ураджэнцах Беларусі, а таксама аб сынах і дочках народаў саюзных рэспублік і замежных краін, якім высокае званне Героя прысвоена за бяспрыкладную храбрасць і мужнасць, доблесць і адвагу, праяўленыя ў баях за вызваленне нашай рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Ды што кніга? Я сам прайшоў не адну сотню кіламетраў з баямі і добра ведаю, якая вялікая дапамога аказвалася рускім народам. Члены савета нашага музея рыхтуюць альбом-альманах, у якім раскажуць пра ўдзельнікаў вызвалення Маладзечаншчыны і вёскі Маркава. Трэба паспець зрабіць гэтую справу, бо тых, хто прайшоў франтавымі дарогамі, становіцца ўсё менш і менш. Яшчэ нядаўна ў нашым сельскім Савеце было 200 ветэранаў вайны, засталося толькі 43. Наш абавязак — іх жыццёвую мудрасць, нязломны гераізм перадаць новым пакаленням. Мужна ваяваў наш зямляк Цімафей Аляксандравіч Сарока. Вярнуўшыся ў родную вёску, працаваў механізатарам, брыгадзірам. Шые такія фасоністыя кажушкі, што любая фабрыка можа пазайздросціць. Узрост сваё бярэ, Цімафей Аляксандравіч застаўся адзін у хаце, але па-ранейшаму трымае карову, свіней. Нават не адмовіўся ад нормы калгасных буракоў — з 10 сотак убраў ураджай. Сапраўды, гераічнага лёсу чалавек. Хочацца назваць і ветэранаў А.В.Асіповіча, П.Л.Навумкіна, В.І.Бараўца, І.С.Іванова, многіх іншых.

Але вярнуся да звароту. Чаго ж дамагаюцца яго аўтары? З мэтай увекавечвання гераічнага подзвігу нашых продкаў пад Оршаю ў 1514 годзе аргкамітэт выступае з прапановамі: прыняць рашэнні Вярхоўнага Савета аб наданні дню 8 верасня статуса дзяржаўнага свята "Дзень Абароны Айчыны", аб пабудове мемарыяла Славы ў гонар Перамогі 1514 года, музея і дыярамы, аб збудаванні помнікаў Канстанціну Астрожскаму і Юрыю Радзівілу ў Оршы і Мінску. А яшчэ выказваюцца патрабаванні ўсталяваць ордэны вайсковай славы імя Канстанціна Астрожскага і Юрыя Радзівіла, вуліцам і плошчам Мінска, Оршы і іншых гарадоў надаць іх імёны, Мінскаму сувораўскаму вучылішчу прысвоіць імя Канстанціна Астрожскага. Якім трэба быць слепаком, каб не ведаць Оршу 1941—1944 гадоў. Менавіта тут упершыню былі задзейнічаны рэактыўныя ўстаноўкі "кацюша", падраздзяленнем якіх камандаваў капітан І.А.Флёраў. Дарэчы, рускі. У горадзе дзейнічала Аршанскае падполле, у тым ліку група К.С.Заслонава, таксама рускага па нацыянальнасці. І апошняе з гэтай абоймы: у выніку Віцебска-Аршанскай аперацыі 1944 г. горад вызвалены Чырвонай Арміяй. 41 вайсковай часці і злучэнню, якія вызначыліся ў баях за Оршу, нададзена ганаровае званне "Аршанскіх". Ні радка пра ўсё гэта ў памянёным звароце. І гэта напярэдадні 50-й гадавіны Перамогі над гітлераўскім фашызмам! Людзі розных нацыянальнасцей з'яўляюцца ганаровымі грамадзянамі Оршы. Аднак, як я ўжо адзначаў, знайшліся людзі, якія акрамя бітвы ў 1514 годзе нічога не бачаць. Нешта падобнае адбываецца і з гісторыяй Слуцкага збройнага чыну, як яго называюць народафронтаўцы. Імі праяўлена зайздросная звышарганізаванасць. Утвораны арганізацыйны камітэт па святкаванню 74-х угодкаў з нагоды той падзеі. Заснаваны гэты камітэт народным фронтам "Адраджэнне", Мартыралогам Беларусі, творчай суполкай мастакоў "Пагоня", Таварыствам беларускай мовы імя Ф.Скарыны, Беларускім краязнаўчым таварыствам, згуртаваннем беларускай шляхты, Нацыянальна-дэмакратычнай партыяй Беларусі, Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай злучнасцю, культурным асяродкам "Беларусь" г. Алматы, Беларускім фондам імя Л.Сапегі, інш. Ніяк не магу зразумець, чаму ў гэтым спісе няма ветэранскіх арганізацый, тых, хто вызваліў наш край ад карычневай чумы. У нашым раёне няма паселішча, у якім бы не было помніка, магіл: вайна не лічылася з чалавечымі жыццямі. Абарона Радзімы была вышэй за ўсё. А сталася так, што пра вызваліцеляў пачалі забываць. Нядаўна пачуў ад кіраўніка даволі высокага рангу:

— Ваенна-патрыятычнае выхаванне цяпер не ў модзе.

Пражыў больш за 70 гадоў і не ведаў, што любоў да Радзімы, да яе мужных герояў залежыць ад павеваў моды. Да якой бязглуздзіцы можна дагаварыцца! Барані, Божа, ад такіх субяседнікаў! Ці не таму і перастаюць працаваць музеі баявой і працоўнай славы ў школах, калгасах, на прадпрыемствах. Яшчэ некалькі гадоў таму назад у нашым раёне для лепшага атрада сельскіх механізатараў быў устаноўлены спецыяльны пераходны прыз імя Р.Р.Кіяшкі — невялікая копія скульптуры Я.Вучэціча "Перакуём мячы на аралы". Ён уручаўся за высокія вынікі мірнай хлебаробскай працы. Герой Савецкага Саюза ўважліва сачыў за іх работай, часта прыязджаў з г. Варонежа для ўручэння прыза перадавым механізатарам. Дажыліся да таго, што і такая форма заахвочвання стала не моднай. Куды ідзём? Што бачым перад сабой? Няўжо забыліся, што больш двух мільёнаў грамадзян унеслі важкі ўклад у разгром гітлераўскага фашызму? Навошта ўсчынаць вэрхал перад датамі, якія таго не заслугоўваюць? Маю на ўвазе бітву пад Оршай і паўстанне Слуцкага збройнага чыну. З вялікім задавальненнем сустрэў паведамленне ў друку аб тым, што ў нашай рэспубліцы ў дзень 50-годдзя Вялікай Перамогі адбудзецца парад, у гарадах і вёсках пройдуць стройнымі калонамі ветэраны-пераможцы, воіны сустрэнуцца з тымі, хто прыме ў іх эстафету. Дажыць бы да гэтага дня, бо засталося нас, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, вельмі мала. Упэўнены, што, як пісаў славуты класік, каб сонца засланіць, вушэй асліных мала. Разумею, выказаўся жорстка, але праўдзіва.

Мяне вельмі непакоіць і тое, што тэма патрыятызму знікае са старонак школьных падручнікаў. Нядаўна наведаў Мінск, трэба было купіць новыя кнігі пра Вялікую Айчынную вайну, пра тое, як подзвіг яе герояў перадаецца маладому пакаленню. Дзесяткі крам абышоў і вярнуўся дамоў з пустымі рукамі. Затое ля кожнага прылаўка мне падсоўвалі "тавар" пра секс, парнаграфію, розныя забойствы. Вось я і пытаюся: хто ж правіць баль?

Цікавую праграму святкавання Дня Перамогі склала і наша ветэранская арганізацыя. Запланавана шмат сустрэч з тымі, хто вызваляў Маладзечаншчыну. Вядзём з імі актыўную перапіску. Толькі ў баях за нашу вёску загінула 28 воінаў. 167 жыхароў Маркава скасіла лютая вайна. Не ўсе іх прозвішчы высечаны на помніку, што ўзведзены перад школай. Справа ў тым, што 70 чалавек прапалі без вестак. Наш абавязак — знайсці людзей, побач з якімі яны ваявалі, даведацца аб іх подзвігу. Імя кожнага нашага земляка павінна быць на абеліску. Базлiўцаў сярод маркаўчан ніколі не было.

*Канстанцін ДОРАХ, старшыня савета ветэранаў вайны і працы Маркаўскага сельскага Савета Маладзечанскага раёна, выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

# КДБ ПЕРАСЦЕРАГАЕ: БОЙЦЕСЯ НІГЕРЫЙЦАЎ, ЯКІЯ ДАРЫ ПРЫНОСЯЦЬ

Акцыянернае таварыства "Белінтурыст" наведаў нейкі доктар Емону Абара з Нігерыі, які паабяцаў азалаціць беларускую фірму. У прысланым ім пісьме з інтрыгуючай абяцанкай насцярожыла толькі паметка: "Канфідэнцыяльна".

Прапанова ж была, на першы погляд, прывабнай і дзелавой — усяго толькі даць згоду на перавод 25 мільёнаў амерыканскіх долараў у Беларусь для інвесціравання. Прычым, як вынікала з пісьма, "для двух бакоў няма ніякай рызыкі", "будзьце ўпэўнены, што гэта грошы не наркабізнесу". Маўляў, Нігерыя — вельмі багатая краіна, якая, на жаль, не можа распарадзіцца "нафтавымі грашамі" па відавочных прычынах.

Дэталі здзелкі не абмяркоўваліся. Спачатку, маўляў, неабходна прынцыповая згода, а потым "арганізуем абмеркаванне тэт-а-тэт для ўстанаўлення ўзаемнага даверу". Тым не менш за забеспячэнне оф-шорнага рахунка абяцалася 35 працэнтаў ад агульнай сумы. Спакуслівa, ці не так?

А тут яшчэ прыйшло чарговае пасланне нігерыйскай нацыянальнай паліўнай карпарацыі, ужо больш шчырае. Яго аўтар, у прыватнасці, паведаміў: "Шэраг маіх калег, уключаючы галоўнага бухгалтара, хочуць выкарыстаць суму ў 28,5 мільёна долараў у асабістых мэтах".

Застаецца толькі здзіўляцца надзвычайнай дасведчанасці нігерыйскіх дзелавых колаў. Адкуль яны даведаліся аб "Белінтурысце"? Доктар Абара спасылаецца на "Дзелавы даведнік" і "высокую рэпутацыю "Белінтурыста" ў ажыццяўленні міжнародных дзелавых здзелак". Мякка кажучы, усё гэта хлусня. Адрас АТ "Белінтурыст" шырока не рэкламаваўся. Відаць, у нігерыйцаў іншая крыніца інфармацыі. Прычым даволі кампетэнтная, якая ведае прамысловую і камерцыйную геаграфію Беларусі.

Пісьмы з салодкімі абяцанкамі атрымалі таксама гомельскія заводы — станкабудаўнічы, ліцця і нармалей, светлагорскае вытворчае аб"яднанне "Хімвалакно", шэраг меншых па маштабах і вытворчых магутнасцях прадпрыемстваў і камерцыйных структур. Увагу і клопаты праявілі быццам бы прадстаўнікі Нацыянальнай нафтавай карпарацыі, Цэнтральнага банка, кантрольна-рэвізійнай групы ўрада Нігерыі.

Камітэт дзяржаўнай бяспекі папярэджвае: сцеражыцеся! Гэта лжэдобразычліўцы, міжнародныя валютна-фінансавыя аферысты! Зусім не гуманнай мэтай кіруюцца афрыканскія дзялкі. Яны проста жадаюць напоўніць грашамі ўласныя кішэні, прысвойваючы лішак сродкаў, што ўтвараецца ў дзяржаўных ці працуючых па дзяржаўнаму кантракту арганізацый. Лішак немалы — мільёны долараў. А каб пакласці гэтыя мільёны на асабісты рахунак у якім-небудзь замежным банку і ўтаіць незаконны манеўр ад кантралюючых органаў, спрытнякі вымушаны шукаць пасрэднікаў. У якасці такіх і прапануюць выступіць беларускім арганізацыям і фірмам, просячы прадаставіць свой замежны рахунак як транзітны. Паслугу абяцаюць шчодра аплаціць: ганарар — да 35 працэнтаў ад перапампаваных сродкаў.

Радуе, што беларусы, нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча, праявілі пільнасць, высокую свядомасць і законапаслушэнства — адхілілі салодкія абяцанкі. Але, на жаль, знайшліся менш стойкія фірмы на неўскіх берагах і ў Краснадары, якія адклікнуліся на прапановы афрыканскіх спакуснікаў. Цяпер сябе ж за локці кусаць гатовы: не абагаціліся на дармаўшчыну, а аказаліся абрабаванымі.

"Нігерыйская экспансія" працягвае пошук. Знайшло ж "зацікаўленых асоб" Санкт-Пецярбургскае ўпраўленне Федэральнай службы контрразведкі. Аператыўнікі з Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі абяцаюць падтрымаць расійскіх калег, каб хутчэй расставіць усё на свае месцы, вывесці на чыстую ваду процізаконныя дзеянні нігерыйскай мафіі.

А пакуль не спакушайцеся на доларавую цукерку. Як бачыце, яна не салодкая.

*БЕЛІНФАРМ.*

КУФЭРАК

# Полезные советы

Муку перед использованием рекомендуется просеивать. Это необходимо для того, чтобы разрыхлить и обогатить ее кислородом. Изделия из просеянной муки получаются пышными, с более равномерной пористостью.

**Если в дрожжевое тесто положено недостаточно сахара, то при выпечке изделий на них не образуется румяной корочки. Избыток сахара замедляет брожение, тесто обычно плохо пропекается внутри.**

После того, как в кисель добавлен картофельный крахмал, его не следует кипятить, надо только довести его до кипения.

**Чтобы на поверхности заварного крема не образовалась пленка, посыпьте его сахарным песком или сахарной пудрой.**

С миндаля, орехов, фисташек кожица легко снимается, если их на несколько секунд погрузить в кипяток.

**Чтобы при варке на пару повысить температуру воды, добавьте в нее поваренную соль.**

Бефстроганов будет приятнее на вкус, если его приготовить с грибами. Для этого сушеные грибы (лучше — белые) размачивают, разрезают длинными дольками и тушат вместе с мясом.

# Домашняя мастерская

### *И никакой пыли*

В домашнем хозяйстве есть вещи, например, лакированная мебель или паркетный пол, которые мокрой тряпкой вытирать не рекомендуется, а сухой — бесполезно, так как пыль остается. В этих случаях следует тряпку пропитать теплой смесью глицерина (10%) и воды. Затем в течение нескольких минут дать поверхности подсохнуть. Обработанная таким образом тряпка хотя и кажется сухой, на самом деле хорошо вбирает в себя пыль.

### *Лак под черное дерево*

Для его изготовления надо 10 граммов солянокислого анилина растворить в 10 граммах спирта. А предварительно дерево надо покрыть раствором из одной части медного купороса и ста частей воды, затем дать ему высохнуть, после чего покрыть слоем вышеуказанной смеси.

### *Как определить размер обуви*

Для того, чтобы определить свой размер кожаной обуви, следует измерить длину ступни в сантиметрах, полученное разделить пополам и прибавить к длине. Полученный результат и есть нужный для вас размер кожаной обуви. Например, если длина ступни 26 сантиметров, то 26+13=39. Это и есть размер.

### *Уход за руками*

Не следует мыть руки очень холодной водой — это сушит кожу. Если кожа на руках сухая, то достаточно ежедневно смазывать руки жирным кремом или глицерином, разведенным водой.

Смягчить огрубевшую кожу помогают ванны с крахмалом. Для этого одну чайную ложку крахмала, размешав предварительно с холодной водой, растворяют в горячей воде и добавляют 1 литр тепловатой воды.

Руки смягчает и отвар пшеничных отрубей. 40—60 граммов их отваривают в 1/2 литра воды. Отвар разбавляют холодной водой, чтобы получился литр жидкости.

Ванны следует делать ежедневно или через день на ночь, продолжительность их 10—12 минут. После ванны хорошо смазать руки каким-либо смягчающим средством.

Утолщения кожи, иногда образующиеся на ладонях, можно устранить, растирая их ежедневно во время мытья рук пемзой.

# Старинные советы

### *Средство для очистки суконной одежды*

Для того, чтобы почистить суконную одежду, отваривают 3 лота (1 лот = 12,8 грамма) обыкновенного табака в 6 фунтах (1 фунт = 409,5 грамма) воды. В полученном горячем отваре мочат жесткую щетку и чистят ею по всем направлениям суконную одежду любого цвета. Когда сукно пропитается жидкостью, то его гладят по ворсу и вешают сушить.

### *Стирка вышитых вещей*

Вышитые цветными нитками вещи хорошо стирать с применением мыльного корня. Его режут на небольшие кусочки, заливают горячей водой, настаивают два-три часа, затем один час кипятят и процеживают. Загрязненную вещь надо замочить в жидкости, полученной от мыльного корня, и оставить на час-два, а затем выстирать и прополоскать в воде.

# Что бы «эдакое» приготовить?

### *Сосиски при свечах*

Горячее — сосиски, сардельки, колбасу — кладут на блюдо, обливают крепким спиртным напитком и перед подачей на стол зажигают. Такое блюдо весьма эффектно выглядит, если его подают еще и при свечах.

### *Цветной сыр*

Творог следует хорошенько отжать и тщательно размешать с любым ягодным вареньем. Потом массу заворачивают в марлю, кладут под пресс и ставят на несколько часов в холодное место. Красивый и полезный продукт готов.

### *Салатный торт*

На большую тарелку или блюдо кладут поочередно слоями заранее приготовленные продукты. Первый ряд — мелко накрошенный белок пяти яиц, второй — натертый сыр, третий — вилкой растертая сайра, четвертый — мелко нарезанный лук, пятый — половина банки майонеза, шестой — желтки трех крутых яиц, седьмой — замороженное и мелко натертое сливочное масло, восьмой — половина банки майонеза.

Готовый слоеный пирог обсыпают смесью из оставшихся желтков и зеленого лука и ставят в холодильник. Салат подают холодным, нарезая как торт.

### *Колючий витамин*

Все виды хвои зимой содержат в большом количестве витамин "С". Особенно богата им хвоя сосны, кедра, пихты. Хвою собирают с тонких, длиной не более чем 3—4 мм веточек, промывают холодной кипяченой водой и измельчают ножом или ножницами. Стакан такой измельченной хвои высыпают в эмалированную кастрюлю и заливают четырьмя стаканами горячей воды. Если есть возможность, воду слегка подкисляют уксусом.

Через несколько часов настой процеживают через двойной слой марли или салфетку. Пьют понемногу, по половине-одному стакану в день. Хранят в темном прохладном месте не более 12 часов. Напиток получается горький, но очень полезный.

### *Капуста по-корейски*

Капусту нарезать, пересыпать солью. Лук и чеснок мелко порезать и смешать с красным перцем. Затем все перемешать с заготовленной капустой. На 1 килограмм капусты надо три столовые ложки соли, одну луковицу средней величины, одну-две дольки чеснока, красный молотый перец, уксус.

*"Гаспадар дарогі" — так называюць у Старадарожскім раёне інспектара ДАІ старшыну міліцыі Сяргея АЛЯКСАНДРАВА (на здымку). За 10 гадоў сваёй нялёгкай службы ён добра ўсвядоміў: дарожнае здарэнне лягчэй папярэдзіць, чым потым выявіць вінаватых. Гэтай простай ісціне ён вучыць не толькі сваіх маладзейшых калег, але і вадзіцеляў з гаспадарак раёна.*

Фота Анатоля БАСАВА.

■ Чарнобыльскі след

# РАДЫЯЦЫЯ І НАША ЗДАРОЎЕ

**Адзінаццаць раёнаў Мінскай вобласці забруджаны радыенуклідамі пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. На іх тэрыторыі размешчаны 271 населены пункт. Тут пражывае больш як 45 тысяч чалавек. Сумная статыстыка. Асабліва калі ўлічыць, што вынікі чарнобыльскай аварыі ўжо даюць аб сабе знаць. Пра тое, як праводзіцца радыяцыйны кантроль у Мінскай вобласці, што неабходна рабіць, каб пазбегнуць яго ўздзеяння, наш карэспандэнт гутарыць з загадчыкам аддзела радыяцыйнай гігіены абласнога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі І.І.Валетка і ўрачом Л.Г.Жыеўскай.**

**І.І.ВАЛЕТКА:** Тэрыторыя, якую зацерушыў чарнобыльскі попел, даволі значная — амаль сто тысяч гектараў. У асноўным выпаў цэзій-137. Шчыльнасць яго не ўсюды аднолькавая. У цэлым жа яна вагаецца ў межах ад 15 да 66 Кі/кв.км.

Радыяцыйная абстаноўка на сённяшні момант па вобласці патрабуе пастаяннага кантролю. А ўлічваючы, што перыяд поўнага распаду цэзію-137 — 300 гадоў, усе мерапрыемствы па радыяцыйнай бяспецы насельніцтва неабходна праводзіць на працягу доўгага часу. Спецыялісты лячэбна-прафілактычных устаноў вобласці, навукова-даследчых інстытутаў РБ сістэматычна абследуюць насельніцтва, што пражывае на забруджаных тэрыторыях. Вынікі, трэба сказаць, насцярожваюць. Расце колькасць людзей з эндакрыннымі захворваннямі, хваробамі крыві і крывятворных органаў, нервовай сістэмы. Выяўлена многа хворых дзяцей. Трывожная сітуацыя складваецца ў Салігорскім раёне.

Калі параўнаць рэгіёны, якія забруджаны радыенуклідамі, і тыя, што застаюцца чыстымі, то рэзкага росту захворванняў не назіраецца. Аднак гэта не можа быць падставай для аслаблення радыяцыйнага кантролю. Аналіз накопленага за мінулыя гады матэрыялу дае падставу лічыць, што іанізуючае выпраменьванне робіць негатыўны ўплыў на здароўе людзей. Таму і кантроль за радыяцыйнай абстаноўкай павінен быць самы пільны. Мы са свайго боку да гэтага імкнёмся. Кантралююцца на ўтрыманне радыеактыўных рэчываў прадукты, пітная вада. Штогод бярэцца звыш 30 тысяч проб. У забруджаных рэгіёнах пад кантролем знаходзяцца пашы, лясныя масівы.

**Л.Г.ЖЫЕЎСКАЯ:** Вядома, што радыенукліды трапляюць у арганізм чалавека праз прадукты харчавання, ваду, паветра. Яны накопліваюцца ў жыццёва важных органах і робяць на чалавека шкоднае ўздзеянне. Як жа засцерагчы сябе ад гэтага? Перш за ўсё неабходна праводзіць адпаведныя работы на прысядзібным участку, у доме. Тэрыторыю вакол жылля трэба трымаць у чысціні і парадку. Пастаянна прыбіраць смецце, чысціць печы і дымаходы. Дровы складваць толькі ў адным месцы. Адходы закопваць у яму глыбінёй не менш аднаго метра, дно яе выкладваць абавязкова слоем гліны. А зверху засыпаць чыстай зямлёй з ямы. І што важна, — яма павінна быць на максімальнай адлегласці ад дома. Забруджанае радыенуклідамі смецце, пустазелле, будаўнічыя адходы нельга паліць, а попел потым выкарыстоўваць у якасці ўгнаення на прысядзібным участку.

Што датычыцца непасрэдна жылля, то тут трэба рэгулярна рабіць вільготнае прыбіранне. І некалькі слоў пра тое, як можна павысіць ахоўныя здольнасці нашага арганізма. Для гэтага вазьміце за правіла па магчымасці часцей ужываць у ежу яблыкі, грушы, чырвоныя і чорныя парэчкі, суніцы, каліну. Яны багатыя вітамінамі, здольныя звязваць солі цяжкіх металаў і тым самым нейтралізаваць уздзеянне радыевыпраменьвання на клеткі.

Магчыма, камусьці гэтыя правілы здадуцца не вартымі ўвагі. Аднак памятайце: ад іх выканання ў многім залежыць ваша здароўе. А радыяцыя не такая ўжо бясшкодная рэч.

*Запісаў Мікалай ЖУЧКО.*



# ОБЪЕКТЫ

## коммунальной собственности Несвижского района, предлагаемые для продажи на конкурсной основе

| 1. | Наименование объекта | Магазин № 2 горпищепромторга (продтовары) | Магазин № 15 горпищепромторга (мебель) | Кафе "Чабарок" | Ресторан "Несвиж" |
|---|---|---|---|---|---|
| 2. | Адрес | г.Несвиж, ул.Гастелло,9 | г.Несвиж, ул.Гастелло,9 | г.Несвиж, ул.Ленинская,13 | г.Несвиж, ул.Белорусская,7 |
| 3. | Характеристика здания (помещения) | отдельно стоящее здание | отдельно стоящее здание | отдельно стоящее кирпичное здание | встроенное кирпичное здание |
| 3.1. | Физический износ, % | 52,0 | 50,0 | 62,4 | 20,0 |
| 3.2. | Общая площадь, кв.м | 65 | 112 | 347 | 611 |
| 3.3. | Торговая площадь, кв.м | 45 | 108 | - | - |
| 3.4. | Количество посадочных мест | - | - | 64 | 92 |
| 4. | Количество работающих, всего чел. | 4 | 5 | 7 | 26 |
| | в т.ч.рабочих | 3 | 4 | 5 | 21 |
| | служащих | 1 | 1 | 2 | 5 |
| 5. | Начальная цена объекта, млн.руб. | 2,3 | 20,0 | - | - |
| | в т.ч.здания | 2,3 | 20,0 | - | - |
| 6. | Стоимость аренды помещения в месяц, тыс.руб. | - | - | 758,2 | 2.442 |
| 7. | Стоимость оборудования и оборотных средств, млн.руб. | | Определяется и оплачивается дополнительно по фактическому наличию на момент приема объекта | | |

### УСЛОВИЯ ПРОДАЖИ ПО КОНКУРСУ

Для магазина № 2
1. Сохранение профиля деятельности (розничная продажа продовольственных товаров: хлебобулочные изделия, молочные продукты, бакалейные и другие продовольственные товары).
2. Трудоустройство членов трудового коллектива магазина сроком не менее чем на 3 года
3. Реконструкция (капитальный ремонт), улучшающая условия функционирования объекта.

Для магазина № 15
1. Розничная продажа товаров народного потребления.
2. Трудоустройство членов трудового коллектива магазина сроком не менее чем на 3 года.

Для кафе "Чабарок" и ресторана "Несвиж"
1. Использование данных помещений в качестве предприятий общественного питания с сохранением категории.
2. Сохранение количества рабочих мест.
3. Трудоустройство членов трудовых коллективов сроком не менее чем на 3 года.

### КРИТЕРИИ ВЫЯВЛЕНИЯ ПОБЕДИТЕЛЯ КОНКУРСА

1. Наивысшая цена при наиболее полном выполнении условий конкурса.

### ФОРМА И ПОРЯДОК ПЛАТЕЖА

50 процентов начальной цены оплачивается именными приватизационными чеками "Имущество" в течение одного месяца со дня заключения договора купли-продажи. Остальная сумма вносится деньгами единовременно.

### ПОРЯДОК ПРЕДВАРИТЕЛЬНОГО ОЗНАКОМЛЕНИЯ С ОБЪЕКТАМИ

Ознакомиться с объектами можно по месту их расположения, предварительно согласовав время осмотра по телефону 5-51-87.

Плата за предварительное ознакомление устанавливается в размере 1/4 минимальной заработной платы.

Заявки на участие в конкурсе с необходимыми приложениями принимаются в течение 30 дней с момента публикации настоящего сообщения в прессе по адресу: г.Несвиж, улица Советская, 1, райисполком, управление по экономике, с пометкой: "Для участия в конкурсе по продаже имущества".

Предложения по выполнению условий конкурса должны быть в отдельном запечатанном конверте.

Желающие участвовать в конкурсе субъекты приватизации вносят залог в размере 10 процентов от оценочной стоимости объекта

| в сумме (тыс.руб.) | маг.№2 | магазин № 15 | кафе "Чабарок" | ресторан "Несвиж" |
|---|---|---|---|---|
| | 230,0 | 2.000,0 | 227,5 | 732,6 |

а также плату за регистрацию в размере 1/4 минимальной заработной платы и специальный сбор за подачу заявления в размере 4-х месячных минимальных заработных плат на счет № 143101 в отделении Белагропромбанка г.Несвижа.

Конкурс проводится 14 декабря 1994 года в 11 часов по адресу: г.Несвиж, улица Советская, 1, каб.55.

Дополнительную информацию можно получить по телефону 5-51-87 в г.Несвиже.

*Комиссия по приватизации.*

■ Спорт

## У ФІНАЛЬНАЙ ГРУПЕ

Другі год запар чэмпіён Беларусі па хакею мінская каманда "Цівалі" будзе выступаць у фінале Кубка Еўропы. Летась, як вядома, яна заняла ганаровае пятае месца.

Яшчэ раз напомнім, што ў паўфінале наша каманда выйграла ў аўстрыйскага "Фельдкірха" — 5:2, чэмпіёна Вялікабрытаніі "Кардзіф Дэвілз" — 14:0 і згуляла ўнічыю са славацкай "Дуклай" — 1:1.

Вызначыліся сапернікі "Цівалі" ў групавым фінальным турніры. Гэта германскі "Мюнхен", "Йокерыт" (Фінляндыя), "Аламоуц" (Чэхія). У другой групе выступяць ТПС (Фінляндыя), "Лада" (Расія), "Мальмё" (Швецыя), "Дукла" (Славакія).

Пераможцы груп у сустрэчы паміж сабой і вызначаць уладальніка Кубка Еўропы.

Фінал Кубка Еўропы пройдзе ў Хельсінкі з 26 па 30 снежня.

## У ПРЭСТЫЖНЫМ МАРАФОНЕ

Выдатна выступіла на традыцыйным Нью-Йоркскім марафоне беларуская бягуння Медзіна Біктагірава. Пераможца апошняй Спартакіяды народаў СССР, удзельніца Алімпійскіх гульняў у Барселоне заняла другое месца сярод жанчын, уступіўшы толькі Тэклоі Лэрупе з Кеніі.

Усяго стартавала каля 26 тысяч удзельнікаў.

## НА ЧЭМПІЯНАТЫ СВЕТУ

Заўтра ў сталіцы Турцыі Стамбуле пачынаецца чэмпіянат свету па цяжкай атлетыцы. Для ўдзелу ў ім выехала зборная каманда Беларусі, у саставе якой дзесяць атлетаў, сярод якіх і двухразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Курловіч.

І яшчэ на адзін чэмпіянат свету адбылі прадстаўнікі нашай рэспублікі. Каманда Беларусі ўпершыню прыме ўдзел у сусветным першынстве па хакею на траве, якое ў гэтыя дні праходзіць у Аўстрыі.

А ў Дортмундзе ўчора пачаўся камандны чэмпіянат свету па спартыўнай гімнастыцы. Першымі абавязковую праграму выканалі мужчыны. У нашай камандзе сем гімнастаў і сем гімнастак. Выступаць жа будуць па шэсць удзельнікаў, а ў залік пойдуць па пяць лепшых вынікаў.

*(Наш кар.).*

## ПАСЛЯ КАРАТЭ — ФУТБОЛ

Своеасаблівае шоу было наладжана гэтымі днямі ў Барысаўскім Доме спорту. Напачатку ў перапоўненай зале выступілі з паказальнай праграмай выхаванцы старшыні Рэспубліканскай федэрацыі каратэ Сяргея Жыдкова. А потым адбыўся матч па міні-футболу паміж дынамаўскімі клубамі Мінска і Барысава. Каманду гаспадароў прадстаўлялі футбалісты раённага аддзела ўнутраных спраў.

У цікавым захапляючым паядынку з лікам 6:5 перамаглі госці. У гаспадароў пляцоўкі асабліва вызначыўся намеснік начальніка райаддзела міліцыі Вячаслаў Скварчэўскі, трапныя ўдары якога прымусілі варатара сапернікаў двойчы даставаць мяч з сеткі варот.

## МАСАВЫ ПРАБЕГ

Трэці год запар у канцы спартыўнага сезона ў Барысаве праводзіцца масавы лёгкаатлетычны прабег. Вось і ў мінулую нядзелю ў горадзе на Бярэзіне сабралася звыш чатырохсот лёгкаатлетаў з розных рэгіёнаў Беларусі, Расіі і Украіны.

У мужчын хутчэй за іншых пераадолеў марафонскую дыстанцыю мінчанін Андрэй Каваленка. Яго вынік — 2 гадзіны 19 мінут 47 секунд. Сярод жанчын на гэтай дыстанцыі лепшы вынік паказала таксама мінчанка Алена Цыхло.

На "дзесяцікіламетроўцы" першынствавалі Андрэй Гардзееў з Бабруйска і Наталля Гушчэня са Жлобіна, а на дыстанцыі 4,5 км мацнейшымі аказаліся бабруйчане Міхаіл Патыльчак і Аксана Малчанава. Дзеці беглі адзін кіламетр. Перамаглі Аляксандр Маляўскі з вёскі Ратамка Мінскага раёна і Кацярына Чубар з Асіповічаў.

Пераможцы спаборніцтваў узнагароджаны грашовымі прызамі, а абсалютныя пераможцы Андрэй Каваленка і Алена Цыхло акрамя гэтага атрымалі яшчэ і страхавыя полісы таварыства "Кентаўр" адпаведна на 100 і 80 тысяч рублёў пад 400 працэнтаў гадавых. Спонсарамі прабегу былі таксама сумеснае прадпрыемства "Фрэбар", акцыянернае таварыства "Лесахімік", Дом гандлю, Барысаўскае аддзяленне Белбізнесбанка, страхавая кампанія "Палар".

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## ХАТНІ ЭКРАН

### 17 лістапада, чацвер

*Беларускае тэлебачанне*

15.50. Вывучаем сваю гісторыю. "Партрэт на фоне замка". Д/ф.
16.10. ТБ — школе. Паэзія П.Панчанкі.
16.40. "Бімбат". Марсельеза.
17.00. Навіны.
17.10. "Маё каханне, мой смутак". Тэлесерыял.
18.10. Навіны (Гродна).
18.25. Кантакт.
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Стоп-кадр.
19.25. "Мелодыі мінулага".
19.50. "Крок". "Науцілус".
20.10. Крэда.
20.30. Пяць хвілін на жарты.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Крок". Студыя "Формула".
23.05. Пад купалам Сусвету.
23.15. "Вялікія паветраныя гонкі". Тэлесерыял.
0.10. НІКа.
0.25. Дайджэст.

*Канал "Астанкіна"*

16.50. Свет сёння.
17.00. ...Да 16 і старэйшым.
17.30. "Жыў на свеце чалавек". Д/ф.
17.40, 20.30. Надвор'е.
17.45. Дакументы і лёсы.
18.00. Гадзіна пік.
18.30. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.55. Праграма Г.Баравіка "Хто ён — Кім Філбі?".
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Масква — Крэмль.
21.00. Лато "Мільён".
21.30. "Становішча рэчаў". Маст.фільм.
24.00. Прэс-экспрэс.

*Канал "Расія"*

16.15. "Пагаслая зорка?".
16.55. Фільм-прэм'ер.
17.10. Будні.
17.50. У свеце аўта- і мотаспорту.
18.20. Пяць хвілін пра добрае жыццё.
18.25. Свая гульня.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Вялікі скандал.
21.05. Надзвычайны канал.
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Фестываль неігравога кіно ў Екацярынбургу.
23.15. Зоркі гавораць.



Упраўленне бытавога абслугоўвання насельніцтва аблвыканкома выказвае спачуванне дырэктару Слуцкай фабрыкі пашыву і рамонту адзення Валянціне Іванаўне Кудзелка з выпадку напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.

### 18 лістапада, пятніца

*Беларускае тэлебачанне*

8.00. Навіны.
8.10. Пяць хвілін на жарты.
8.15. Дайджэст.
8.25. Крэда.
8.45. "Лясныя казкі". Мультфільм.
9.00. ТБ — школе. Беларуская літаратура. Паэзія П.Панчанкі.
9.30. "Маё каханне, мой смутак".
10.30. Прагpама для сям'і.
11.05. "Вялікія паветраныя гонкі".
11.55. "Бімбат". Марсельеза.
12.15. "Дыназаўрыкі".
12.45. "Джон Рос. Афрыканскія прыгоды".
13.20. "Пасля 2000 года". Тэлесерыял.
14.15. "Науцілус".
14.35. Відзьма-нявідзьма.
15.35. Вывучаем сваю гісторыю. "Францыск, сын Скарыны".
16.35. "Бімбат". "У яблычак".
17.00. Навіны.
17.10. "Палесся мілае дзіця". Я.Янішчыц.
17.45. Кінанарыс.
17.55. Шукаем ініцыятыўных. Беларуска-румынскі гандлёвы дом "Беларум".
18.10. Навіны (Магілёў).
18.35. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Эканамікст.
19.20. Планета людзей.
20.05. Падарункі на добры настрой.
20.20. Пяць хвілін на жарты.
20.25. Кантакт.
20.30. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.40. "Расстанемся, пакуль добрыя". Маст.фільм.
22.55. Пад купалам Сусвету.
23.05. "Вялікія паветраныя гонкі". Тэлесерыял.
24.00. НІКа.
0.15. Дайджэст.
0.25. "Славянскі базар-94". Канцэрт польскай эстрады.
1.30. Шапка БТ.

*Канал "Астанкіна"*

5.30. Раніца.
6.50, 7.50, 8.50, 9.50, 14.50, 17.50, 20.00, 22.50. Навіны.
7.00. Раніца.
8.00. Сарока.
8.25. "Дзікая Роза".
9.00. Аб будаўніцтве аўтамагістралі Омск—Новасібірск.
9.30. Канцэрт ансамбля танца Казахстана.
15.00. "Пітэр Пэн" (Беларусьфільм). 2-я серыя.
16.25. Рок-урок.
16.50. Свет сёння.
17.00. Чалавек і закон.
17.30. Спявае ансамбль "Нядзеля".
17.40. Дакументы і лёсы.
17.45, 20.30. Надвор'е.
18.00. Бамонд.
18.25. "Дзікая Роза". Тэлесерыял.
18.50. Поле цудаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.40. Чалавек тыдня.
21.00. "Вуліцы Сан-Францыска" (ЗША).
22.05. "Погляд" з А.Любімавым.
23.05. Музагляд.
23.50. Прэс-экспрэс.
24.00. Аўта-шоу.

*Канал "Расія"*

6.30. Формула-730.
7.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.20. Патрабуюцца... патрабуюцца...
7.30. Час дзелавых людзей.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.25. Паехалі.
8.35. У свеце жывёл.
9.30. Ранішні канцэрт.
9.45. "Санта-Барбара".
10.35. Тэлегазета.
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Свята кожны дзень.
16.15. Новая лінія.
16.55. "Знакамітыя зладзеі Дыснея".
17.55. Музыка на дэсерт. "Санта Лючыя".
18.10. Кар'ера.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.30. Маскі-шоу.
21.05. "Абзац".
22.20. Рака часу.
22.25. Аўтаімгненне.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Адчай" (Германія).
0.45. Зоркі гавораць.

### 8 канал

*Четверг, 17 ноября*

18.00 Мультфильм. "Могила светлячка". Часть 1-я.
18.55 Документальный фильм "По улицам старым, заповедным".
19.20 Телесериал "Морена Клара".
20.10 БАНТ: "Репортаж".
20.15 К сведению.
20.40 Телесериал "Шансы".
21.30 Студия "БМ": "Квадракола".
21.50 Худ.фильм

*Пятница, 18 ноября*

18.00 Мультфильм "Могила светлячка", 2-я часть.
18.30 СОЛТЭК: "Доремифасольки".
18.40 "Там, где текла река Неглинная". Док.фильм.
19.05 "Морена Клара". Телесериал.
20.00 Агентство "Пармикс": "Городские часы", "Новости".
20.10 "Внутренние войска: вчера, сегодня, завтра". Часть третья "Дело для настоящих мужчин".
20.40 "Шансы". Телесериал.
21.30 Студия "БМ": "Девятое облако".
21.50 Время местное.
22.15 АО "ТЕХИНПРОМ — ГРУПП" и ДП 8 ТВК представляют кинокомедию "Сумасшедший пляж".

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск, вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9, рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі —68-29-76, намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81, адказнага сакратара —68-26-48, сакратарыята —68-26-48, аддзелаў: Саветаў —68-26-38, адукацыі і культуры —68-25-76, сацыяльна-эканамічнага —68-25-43, грамадска-палітычнага —68-25-42, інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33, пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83, ілюстрацыі —68-25-03, камерцыйнага — 68-25-86, бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў: у Барысаве —(8-277)5-15-61, Вілейцы —(8-271)5-57-86, Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.
Заснавальнік — *Мінскі абласны Савет дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

Галоўны рэдактар М.А.ШЛОМА.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.
Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10. Нумар падпісаны ў 22.00.
Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе "Мінскай праўды". Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.
Індэкс 63923. Зак.№123.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12